Кахновіч, В.А. Бухгалтарскія матэрыялы латыфундый (1861-1914 гг.) Усходняга Палесся як гістарычная крыніца / В.А. Кахновіч // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Вып. 5 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БДУ, 2010. — С. 286-296.

**В.А. Кахновіч**

# БУХГАЛТАРСКІЯ МАТЭРЫЯЛЫ ЛАТЫФУНДЫЙ (1861—1914 гг.) УСХОДНЯГА ПАЛЕССЯ ЯК ГІСТАРЫЧНАЯ КРЫНІЦА

Ёсць меркаванне, што дакумент справаводства стаў аб’ектам стан дартызацыі толькі пасля 1917 г. [1, с. 8]. У вялікай ступені тое датычыць матэрыялаў латыфундыяльнага справаводства. Гэта пераважна, апроч гаспадарчай перапіскі, бухгалтарскія матэрыялы. Дадзены від крыніц адрозніваецца шэрагам спецыфічных рысаў, што патрабуюць адмысло вага падыходу і метадаў працы з імі, а таксама звяртання да асноў тэо рыі бухгалтарскага ўліку. У артыкуле асвятляюцца асноўныя праблемы працы з падобнага роду гістарычнымі крыніцамі, што ілюструецца на прыкладзе двух буйнейшых латыфундыяльных збораў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (далей — НГАБ) з усходняй часткі беларус кага Палесся. Мяркуем, што сам характар матэрыялаў памешчыцкага



рахункаводства, іх склад і дакументальная арганізацыя — знешняе свед чанне працякання ўнутраных гаспадарчых (і сацыяльных) працэсаў на лакальным (асобныя маёнткі) і рэгіянальным узроўнях. Парэформен ны перыяд прыцягвае ўвагу сваёй набліжанасцю да сучаснасці: матэ рыялы латыфундый адлюстроўваюць працэсы адаптацыі сельскай гас падаркі да капіталізму.

Метады працы з падобнага роду крыніцамі маюць сваё выразнае па дабенства з агульным крыніцазнаўчым аналізам. Так, на этапе знешняй крытыкі ўжо магчыма адзначыць асноўныя вызначальныя рысы рахун каводства ў тым альбо іншым маёнтку, групе валоданняў аднаго буйно га землеўладальніка (латыфундыі). Напрыклад, як паказана ніжэй, віда вочна занядбанне рахункаводства і малая ўвага да яго ў Горватаў, а так сама наяўнасць шэрагу хібаў і карупцыі ў латыфундыяльным вотчын ным упраўленні князя ПаскевічаЭрыванскага. Шэраг назіранняў мож на паглыбіць і пашырыць на наступным этапе ўнутранай крытыкі даку ментаў бухгалтарскага справаводства. Звяртанне да гэтых спецыфічных матэрыялаў патрабуе ад гісторыка ведання тэорыі бухгалтарскага ўліку.

Бухгалтарскі ўлік закліканы не толькі фіксаваць паказчыкі эканамі чнай дзейнасці прадпрыемства, але і кантраляваць, аналізаваць гэты працэс, своечасова і дакладна інфармаваць кіраўніка (і ўладальніка, і наёмнага менеджэра) аб вытворчым працэсе дзеля забеспячэння гаспа дарчай эфектыўнасці [2, с. 18—20, 42]. Выкарыстоўваюцца такія асноў ныя формы бухгалтарскага ўліку (рахункаводства), як: бухгалтарскі ба ланс, бухгалтарскі рахунак і ведамасці (абаротная, сальдавая). Яны мо гуць мець як сінтэтычны (абагульняючы), так і аналітычны (драбленне па групах уліку) характар.

Адзначым, што бухгалтарскі ўлік у памешчыцкіх маёнтках парэфор меннага перыяду (1861—1914 гг.) быў дастаткова просты. Паказальна, што, напрыклад, балансавыя кнігі (патрабуюць строгага вядзення ак тыву і пасіву з іх выніковым звядзеннем, прымянення двайнога запісу) Гомельскай вотчыны Паскевіча вяліся з парушэннем правілаў баланса вага ўліку і ўяўлялі, па сваёй сутнасці, прыклад простай абаротнай веда масці. Прычыны таму можна бачыць у агульных сацыяльнаэканаміч ных

абставінах часу: перажыткі прыгонніцкага падыходу ў справе арга нізацыі і кіравання вытворчасцю; адарванасць пераважнай часткі па мешчыцкіх эліт ад гаспадарак, зямлі; адсутнасць кваліфікаванага перса налу як для арганізацыі кіравання гаспадаркай, так і яе вядзення (служа чых і рабочых). У той жа час беларускія і ўкраінскія тэрыторыі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. з’яўляліся спецыфічнай заходняй ускраі-



най Расійскай імперыі, якая адрознівалася высокім узроўнем канцэнт рацыі памешчыцкага землеўладання. Асабліва гэта датычылася Мінскай губерні і ўкраінскага Правябярэжжа. Агульна, у межах усёй Расійскай імперыі, беларускія і ўкраінскія тэрыторыі адрозніваліся параўнальна нізкім узроўнем мабілізацыі дваранскай зямельнай уласнасці [3; 4].

Пачынальнікам у расійскай і савецкай гістарыяграфіі вывучэння бухгалтарскага справаводства прыватных вотчынных упраўленняў быў Ул. К. Станюковіч. У 1927 г. выйшла яго праца, прысвечаная бюджэту гаспадаркі Шарамецьевых за 1798—1910 гг. Ім выяўлена, у прыватнасці, што толькі правядзенне выкупной аперацыі па рэформе 1861 г. пазбав іла бюджэт Шарамецьевых ад хранічнай запазычанасці. У дальнейшым Сяргей Дзмітрыевіч Шарамецьеў разарыўся, ажыццяўляючы розныя гаспадарчапрадпрымальніцкія эксперыменты, а Аляксандр Дзмітры евіч Шарамецьеў да цякучага бюджэту збіраў капітал, аднак і расходы вельмі абмяжоўваў, і гаспадарку не развіваў, карыстаючыся вялікімі да ходамі ад здачы зямлі ў арэнду як безыніцыятыўны ранцье [5, с. 17— 19]. У далейшым праблему закраналі К. Г. Воблы, Б. Б. Кафенхауз, А. М. Анфімаў, Л. П. Мінарык, Д. І. Будаеў, Я. М. Гумянюк [6; 7; 8; 9; 10; 11]. І. Д. Кавальчанка настойваў на першаступеннай вартасці «вотчын ных архіваў» (гадавыя справаздачы, ведамасці, рахункі, кнігі, штодзён ныя запісы работ і інш.) для вывучэння эвалюцыі памешчыцкай гаспа даркі ў межах асобных рэгіёнаў [12, с. 32]. Адзначым таксама працу І. Ф. Бавыкіна, што падрабязна разглядаў стан фінансаў уральскіх маг натаў у другой палове XIX — пачатку XX ст., і даследаванне А. С. Грузі нава, прысвечанае гаспадарцы князёў АбамелекЛазаравых [13; 14].

Звернемся да матэрыялаў бухгалтарскага рахункаводства ў гаспадар ках Паскевічаў і Горватаў, што захоўваюцца ў НГАБ (г. Мінск). Гэтыя матэрыялы не мелі нейкага агульнага тыпу вядзення, адрозніваліся раз настайнасцю форм і змяняліся ў залежнасці ад цякучых патрэб таго ці іншага гаспадарчага ўпраўлення. Напрыклад, у лістападзе 1874 г. галоў наўпраўляючы Гомельскай вотчыны князя Ф. І. Паскевіча наракаў на справаводства падначаленай яму вотчыннай адміністрацыі: «…реши тельно невозможно определить более точные суммы доходов и расхо дов» [15, л. 8]. «Книга для записи протоколов и постановлений по Го мельскому имению» за 1874—1882 гг. мае выгляд стыхійна фармiраваў шагася фінансавага дакумента: запісы бессістэмныя і не маюць нават храналагічнага парадку [15, л. 1—73]. Нягледзячы на прымаемыя меры, у Гомельскім маёнтку строгасць вядзення ўліку і ў далейшы час была далёкай ад дасканаласці.



Пры даследаванні такіх матэрыялаў, як бачыцца, лепш за ўсё група ваць звесткі альбо ў храналагічным парадку, альбо ў адпаведнасці тымі катэгорыямі ўліку, што вядомы па іншых падобнага тыпу дакументах. Напрыклад, «Бюджет Гомельского имения на 1873/1874 г. [гаспадарчы год]» прапаноўвае вызначэнне прыходу і расходаў па наступных катэ горыях: шынкі, гарадскія дамы, вадзяныя млыны, рыбалоўныя азёры, фальваркі ў доўгатэрміновай арэндзе, адышоўшыя ў надзел сялянам землі і адышоўшыя землі ад былых фальваркаў, прынятыя ад Дняпроў скай кампаніі землі; сядзібы, ворыўныя і сенакосныя ўчасткі ў Агарод не Гомельскай, участкі ў Паддабянцы, Клімаўскі і Каравышаўскі фаль варкі, Добрушскі і Харапутцкі фальваркі, Новікаўскі фальварак, Багус

лаўская ферма, лясніцтва, фальваркі, што былі ў арэндным трыманні [16, л. 2 зв. — 8 зв.]. Характэрна, што ў рахунку па Агародне Гомельскай у расходах фігуруе красамоўнае сведчанне: «…сборщику Кушнерову — 100 руб.» [16, л. 2 зв.]. У «Финансовом отчете по Гомельскому имению за 1906/1907 г.» з'яўляюцца ўжо іншыя катэгорыі правядзення рахун каў: арэнда фальваркаў (усяго 6 фальваркаў і сядзіба Малыя Новікі), доўгатэрміновая арэнда зямель, арэнда Добрушскай фабрыкі, арэнда крухмальнага завода, розныя арэндныя артыкулы (рыбныя азёры, Во латаўскі цагельны завод, інш.), Лясны двор у Гомелі, сенапрэсавальны завод у Глушцы, лесапільны завод у Добрушы, скотнік, птушнік і пасе вы ў БагуслаўскаНовікаўскім фальварку, лугаводства, арэнда фрукто вых садоў, аднагадовая арэнда зямель, змешаныя прыходы і расходы (але паказаны толькі чысты прыбытак па лясніцтву) [17, л. 3—26].

Выяўленыя змены не столькі адлюстроўваюць асаблівасці рахунка водства, колькі сведчаць аб істотных структурных зменах у арганізацыі гаспадаркі Гомельскай вотчыны. Адсутнасць рахункаў па выдатках па лясніцтву вотчыны сведчыць аб аўтаномным статусе Гомельскага ляс ніцтва ў складзе вотчыны, што пацвярджаецца з іншых дакументаў. Увагу прыцягваюць субрахункі, у якіх прадстаўлены гаспадарчыя аб'екты і катэгорыі даходаў і выдаткаў вотчыны. Вялікую праблему ўяўляе сумяш чэнне ў адной і той жа адзінцы архіўнага захоўвання матэрыялаў пер шаснага ўліку (квіткі разлікаў па рахунках, уліку прыходу і расходу зер ня, лесаматэрыялаў, металічных рэчаў і іншых матэрыялаў) і ўласна бух галтарскага ўліку (сінтэтычныя ведамасці прыходу і расходу сродкаў па месяцах, гадавыя і месячныя балансы, інш.). Дадзеная акалічнасць уск ладняе аналіз дакументаў, аднак, з іншага боку, дазваляе праверыць ра хункі па асобных катэгорыях уліку, калі рэпрэзентатыўнасць крыніцы тое дазваляе. Напрыклад, ніжэй прадстаўлены вынікі пераліку выдат-



каў па вотчыннай адміністрацыі, што, зведзеныя па субрахунках, істот на адрозніваюцца ад заяўленых агульных выдаткаў.

Для вядзення бухгалтарскага ўліку ў Гомельскай вотчыне выкарыс тоўваліся як друкаваныя «класічныя» касавыя кнігі з вылучэннем двай нога ўліку праз дэбіт і крэдыт, так і рукапісныя — з вылучэннем прыхо ду і расходу. Аднак улік заўжды практычна адпавядаў самай простай і агульнай прыходнарасходнай ведамасці: нярэдка назіраецца сітуацыя, калі балансавыя кнігі выкарыстоўвалі для запісу прыходу па лесаматэ рыялах, для вопісу рэчаў у фальварках, у Гомельскім палацы, інш. Тут жа, у касавых кнігах, поруч з прыходнарасходнымі справаздачамі пад клейваліся лісты рахункаў, распіскі аб грашовых і матэрыяльных пера водах, чэкі, пазыковыя запісы. Найчасцей яны ўяўлялі сабою толькі хра налагічную паслядоўнасць, але не былі згрупаваны па асобных відах і крыніцах паступленняў і выдаткаў. Разам з тым ёсць меркаванне, што далёка не ўсе рахункі падклейваліся ў касавыя кнігі, а толькі невялікая частка іх — менавіта тыя, што не праходзілі праз лясніцтвы і фальваркі і збіраліся самой галоўнай канторай.

Кнігі распараджэнняў за 1874—1918 гг. і пенсійны спіс вотчыны 1881—1907 гг. дазваляюць вылучыць склад Галоўнага ўпраўлення досыць няпэўна: галоўнаўпраўляючы, 6 упраўляючых (па акругах вотчыны), бухгалтар, касір і 2 землямеры. З улікам ведамства па замку і канюш нях — усяго налічваецца штат Галоўнага ўпраўлення ў Гомельскім пала цы ў 154 чал. з прыслугай, але без прамысловых аб'ектаў і работнікаў на фальварках. Затое больш пэўны склад лясніцтва: 125 чал., уключаючы 81 ляснога абходчыка і 11 аб'ездчыкаў, галоўнага ляснічага, яго памоч ніка і 8 ляснічых і некаторых іншых (вартаўнікі пры Лясным двары, скла дах, інш.) [18, л. 75—77 зв.; 19, л.3 зв. — 11 зв.]. На практыцы пашыра ная была сітуацыя, калі штат служачых і прыслугі ўказваўся няпоўна. Ён залежаў ад той альбо іншай актуальнай патрэбы ў падсумаванні вы даткаў па жалаванню альбо для вызначэння пенсій. Што ж датычыцца складу служачых і рабочых

Гомельскай вотчыны, то нават беглы позірк на яго паказвае перавагу лясной галіны ў гаспадарцы. Калі ў 1861 г. да ходы ад 10 лясных дач складалі 247,75 руб., то ў 1862 г. — 479 руб. Між тым ужо ў 1873 г. бюджэт Гомельскай вотчыны фіксуе даход ад лясоў у 63 380 руб., альбо 45 % ад 140 790 руб. валавога даходу па маёнтку. Гэта прытым, што даходы ад прамысловагандлёвай дзейнасці складалі 50 364,4 руб., альбо 35,8 %, а даходы ад 7 фальваркаў — 4521,09 руб., ці ўсяго 3,2 % (рэшта — даходы ад арэндных трыманняў). Гаспадарчыя (эканамічныя) расходы па вотчыне складалі 45 265 руб., ці 32,15 % ад



валавога даходу [16, л. 8 зв., 14а—15; 20, л. 143 зв., 337]. Таму відавочна дастаткова высокая рэнтабельнасць.

Выяўляецца, што на 1 лютага 1883 г. Гомельская вотчына мела дэбі торскую запазычанасць у 112,05 тыс. руб. (у т. л. 49,2 % — за прададзе ныя землі) [21, л.42—46]. Апошняе сведчыла аб крызісе гаспадаркі па сэсараў — арандатараў фальваркаў і сялян, якія былі асноўнымі вінава тымі па разліках. Характэрна, што сяляне ў прынцыпе былі вызнаны як «сумніўныя вінаватыя». Апроч таго, існавала запазычанасць лесапра мыслоўцаў па лесаматэрыялах, пакупнікоў па цукровым заводзе, аран датараў рыбалоўных і іншых угоддзяў, жылых і гаспадарчых пабудоў. Ра зам з тым крэдыторская запазычанасць вотчыны складала ў той жа час 94 273,7 руб., што было звязана з выдаткамі па абсталяванні Добруш скай папяровай фабрыкі і буйнымі меліярацыйнымі работамі, якія ажыццяўляліся тады ў Гомельскім маёнтку з дапамогай Заходняй экс педыцыі па асушэнні балот. Вядома, што фабрыка была заснавана ў 1870 г. і патрабавала істотных капіталаўкладанняў для арганізацыі выт ворчасці. Акрамя таго, спыніў сваю працу цукровы завод князя ў Гомелі (1880 г.), прадукцыя якога не вытрымлівала канкурэнцыі на рынку [15, л. 112]. У князя Паскевіча меліся ў той час 2 крупадзёркі — у в. Уза і Прыбор, што здаваліся ў арэнду за 1,5 тыс. руб. Валавога даходу яны прыносілі сваім арандатарам 7,6 тыс. руб., аднак не вытрымлівалі кан курэнцыі з вадзянымі млынамі сялян [22, с. 252]. Прычыну дадзенай акалічнасці варта шукаць у лепшай прыстасаванасці млыноў да зменлі вай кан'юнктуры паслуг на лакальным узроўні і ў тым, што імі распа раджаліся самі ўласнікі, а не арандатары.

Для пераадолення цяжкасцей Ф. І. Паскевічу і яго пляменніку І. П. Балашову * давялося пад залог 22 фальваркаў (59 015 дзес. зямлі) заняць у Віленскім зямельным банку 109,2 тыс. руб. [23, л. 71]. Праект вёў да павелічэння асноўнага капіталу ўласніка Гомельскай вотчыны, але ў выпадку камерцыйнай няўдачы паскорыў бы банкруцтва ўсяго гас падарання. Тым не менш метад «буйной інвестыцыі» ў сродкі вытвор часці сябе апраўдаў. У 1875 г. фабрыка дала прадукцыю і ўжо да 1880 г. нарасціла аб'ёмы вытворчасці ў 5,5 раза, мела 2 майстра, 350 рабочых і давала даход у 320 тыс. руб., з якога 183 тыс. руб. складаў чысты прыбы так [22, с. 194, 273]. Але ўжо ў сакавіку 1878 г. князь Ф. І. Паскевіч пас * Графы Іван і Мікалай Пятровічы Балашовы былі пляменнікамі і спадкаемцамі Го мельскай вотчыны па смерці бяздзетнага князя Фёдара Іванавіча Паскевіча і яго жонкі Ірыны Іванаўны Паскевіч (ураджонай княгіні Варанцовай).



пяшаў аддаць «Таварыству Добрушскай папяровай фабрыкі» (Ф. І. Пас кевіч, І. П. Балашоў, А. С. Лазінскі, А. В. Нарольскі) гэтае прадпрыем ства з 333 дзес. зямлі ў арэнду на 35 гадоў і 3 месяцы за 30 тыс. руб. [24, л. 1—3 зв.]. Такі крок кіраваўся захаваннем інтарэсаў князя: ён пазбягаў прамысловых падаткаў і гарантаваў, атрымоўваючы, між тым, свой ды відэнд, вотчыну ад магчымага банкруцтва фабрыкі. Пры княгіні Ірыне Іванаўне (спадкавала маёнтак у жніўні 1903 г.) фабрыка паранейшаму знаходзілася ў

арэндзе на тых жа ўмовах. Аднак гаспадыні даводзілася ўжо сплочваць частку фабрычнага збору, па якім, праўда, узніклі нека торыя нядоімкі [17, л. 7 зв.—8]. З дакументаў прадпрыемства бачна, што насамрэч у вырашэнні сваіх спраў фабрыка залежала (пастаўка дроў, матэрыялаў, нават правядзенне фінансавых аперацый, інш.) ад адміні страцыі і ўласніка Гомельскай вотчыны і вотчыннай адміністрацыі [25, л. 48—54; 26, л. 2—34]. Акрамя таго, цукровы завод быў пераўтво раны ў саломамасавы — пастаўляў сыравіну папяровай фабрыцы і зас таваўся пад кантролем князя Паскевіча [21, л.6 зв.—10]. У кастрычніку 1884 г. у Карэнеўскім фальварку былі арганізаваны паравая лесапілка і малацілка, якія прыносілі невялікі даход (у сярэднім 400 і 950 руб. у год) [27, л.1—35 зв.]. У снежні 1896 г. па ініцыятыве менавіта князя, якому давялося пераадольваць сумненні свайго галоўнаўпраўляючага (баяўся адсутнасці заказаў для арміі), ва ўрочышчы Глушэц быў арганізаваны сенапрэсавальны завод. Для забеспячэння яго сыравінай у 1896—1901 гг. у Хамінскім лясніцтве было расчышчана 550 дзес. сенакосаў, на што было выдаткавана 24,5 тыс. руб. Ужо ў 1905 г. з сенакосаў пастаўлялася да 155 тыс. пудоў сена [28, л. 7—29 зв., 36—36 зв., 88]. Галоўным заказ чыкам яго, між іншым, было інтэнданцтва [29, л. 97].

Добрушская фабрыка і вотчына князя Ф. І. Паскевіча былі выключ най з’явай для тагачаснага Палесся. Характэрна, што развіцца Гомельс кай вотчыне дазволіла не сельская гаспадарка, а лес і прамысловае прад прымальніцтва землеўладальніка. Таксама немалаважным фактарам была ашчаднасць у расходах гаспадароў вотчыны ў цэлым. Ёсць звесткі па расходах у 1905—1907 гг.: прытым, што яны заставаліся на адным узроўні — 208 866 руб. і асабісты рахунак княгіні не перавышаў 5 тыс. руб., але ўзраслі ў 3 разы выдаткі на адміністрацыю [30, л. 33]. Гэта ад назначна магло сведчыць аб узрастанні карумпаванасці вотчыннай ад міністрацыі. Сапраўды, згодна балансу 1913—1914 гаспадарчага года, расходы ў цэлым, намінальна, скараціліся і складалі 58,2 тыс. руб., але ў рэальнасці (паводле пераліку па асобных паказаных катэгорыях расхо даў) склалі 101 тыс. руб. [31, л. 2—28]. Вядома, што служачыя адмініст-



рацыі вотчыны чынілі істотныя злоўжыванні. У маі 1908 г. ляснічы ма ёнтка Паскевічаў Іванаўскае сяло (Новааляксандраўскі павет Варшаўс кай губерні) Аляксандр Янічак быў абвінавачаны адміністратарам гэта га маёнтка Люцыянам Якушакам у прысваенні даходаў ад продажу ляс ных матэрыялаў. Падчас следства ўжо Янічак даводзіў віну Якушака ў скрадані сродкаў з касы маёнтка [32, л. 16 зв.—21 зв.]. Пасля смерці князя Ф. І. Паскевіча (16 чэрвеня 1903 г. у г. Гомелі [33, л. 1, 47]) гарад ская дума і губернская казённая палата выявілі істотнае ўхіленне вот чыннай адміністрацыі ад падаткаў, аднак зза прамога ўмяшальніцтва Сената праблему вырашыць не ўдалося [34, л. 10—60 зв.].

Сярод матэрыялаў валоданняў Горватаў (Нараўлянскае, Галоўчын скае, Прыборскае), якія вялі гаспадарку з дапамогай эканомаў, але без асобнага гаспадарчага ўпраўлення, зводных бюджэтаў не сустракаецца. Аднак ёсць ведамасць штогадовага пагашэння дзяржаўных каштоўных папер па выкупным плацяжы за 1861—1887 гг.: паступовa доля што гадовага атрымання памяншалася і разам склала 51 024,32 руб. [35, л. 16 зв.]. Апроч ведамасцей разліку з сялянамі за 1857 і 1900 гг., ёсць ка савая кніга маёнтка Нароўля за 1899—1900 гг. Але яна складзена настолькі бессістэмна, што ўстанавіць сувязь між рознымі дадзенымі немагчыма [36, л. 33—173]. Захавалася толькі ведамасць па маёнтку Нароўля 1900 г.: валавы даход быў у 8,27 тыс. руб. (ад арэнд сялянскіх — 16 %, 44,2% да вала гаспадарка эканоміі), выдаткі складалі 4,7 тыс. руб. [37, л. 13—16 зв.]. У той жа час «Спіс фабрык і заводаў 1910 г.» паказвае, што Станіслаў Маў рыкіевіч Горват з дзвюх вінакурань (17 рабочых) у маёнтку Галоўчыцы меў да 94,4 тыс. руб. валавога даходу, а Маўрыкій Данілавіч Горват з віна курні ў маёнтку Раманаўка (8 рабочых) — 20 тыс. руб. [38, с. 513, 518]. Гаспадарка сутыкалася з праблемай забеспячэння вытворчасці сыраві най — уласнае гаспадаранне было недастатковым. З дакументаў бачна, напрыклад,

што Артур Данілавіч Горват прадаваў лес дзеля таго, каб на бываць бульбу для вінакурэння [39, л. 7—8, 10, 20—20 зв.]. На жаль, не захавалася дакументаў справаводства па вінакураных прадпрыемствах Горватаў. У той жа час, напрыклад, фонд роду Яленскіх (НГАБ у г. Мінску, ф. 1636) зусім не ўтрымоўвае ніякай бухгалтарскай справаздачнасці. Найвялікшыя даходы атрымоўваў Артур Горват ад гандлю лесам, але мізэрную частку накіроўваў на гаспадарчыя патрэбы, пры гэтым меў нядоімку па падатках [40, л. 5—9]. Лясны гандаль моцна залежаў ад вы падковых кантрактаў: з 1891 па 1899 г. па 10 дамовах з 7 лесапрамыслоў цамі было прададзена не менш 140 тыс. дрэў на прыблізна 300 тыс. руб., што было вельмі танна (меней 2 руб. за 1 дрэва). Пры гэтым заўжды ў



дамовах фігуравала ўслед за вызначэннем аб'ёмаў лесанарыхтоўкі ага ворка «… и более, сколько будет вырублено» [41, л. 1—44 зв.]. Адзначым, што пры ўсім тым гэтыя прыклады паказваюць воблік яшчэ адносна паспяховага гаспадарання буйных памешчыкаўземле ўласнікаў на Палессі. Супастаўляючы, канешне, не можам абсалюты заваць сітуацыю зза стану захаванасці матэрыялаў. Напрыклад, ад вя домай гаспадаркі Скірмунтаў у Парэччы і Альбрэхтова дакументаў не засталося, ад гаспадаркі Скірмунтаў у Моладава ў НГАБ г. Гродна захо ўваецца толькі адна справа (ф. 1325, воп. 1, спр. 1). Таксама не застало ся дакументаў гаспадаркі Кеневічаў у Капцэвічах, Брынёва і Дарашэві чах, Алеша ў НоваБеражное і Церабяжова, інш. Між тым дапускаем, што — пры іншых роўных умовах — другія валоданні на Палессі, менш вядомыя ў гістарыяграфіі (Хойнікі Прозараў, Вадовічы Аскерка, Ста шаны і Вулька Любяшоўская Корсакаў, Чыстая Лужа і Буйнавічы Ле вандоўскіх, ПаўлінаваСнядынь Тышкевічаў, Каралін (або Ельск) Ан сельмаў, Кабаноўка дэ Бехлей, Лоеў Сафіі Лашч, інш.), бухгалтарскай справаздачнасці якіх не захавалася, хутчэй патрабуюць аднясення іх да ліку неэфектыўных гаспадаранняў, чым наадварот. Заўважана, што для разглядаемых прыкладаў гаспадарання ў маёнт ках уласціва ўнутраная неаднароднасць. Пацвярджаецца думка аб тым, што ўзровень арганізацыі справаводства ў эканоміі можа сведчыць аб больш высокім узроўні яго гаспадаркі і эканамічнай паспяховасці. Калі гаспадарка вялася дбайна і рацыянальна, то і рахункаводства ў такім маёнтку было на належным узроўні. Калі ж гаспадаранне не было такім, то і рахункаводства вялося няспраўна і эпізадычна. Так, нягледзячы на тое, што па колькасці землеўладання Горваты не саступалі Гомельскай вотчыне князя Ф. І. Паскевіча (каля 90 тыс. дзес. на мяжы XIX—XX ст.), сітуацыя ў іх істотна адрознівалася. Уплывала, відаць, і тое, што апош няя была з 1847 г. майаратам, і тое, што Гомельская вотчына была арга нізаваным цэласным гаспадарчым механізмам. Усё гэта пазітыўна ад бівалася не толькі на характары вядзення вотчыннага справаводства, але і самога гаспадарання. Разам з тым немалаважным фактарам з'яў лялася месцазнаходжанне ўладанняў: балотная глуш у Горватаў і раз мяшчэнне ў больш спрыяльных ландшафтных і транспартных умовах Гомельскай вотчыны.

ЛІТАРАТУРА

1. Паневчик, В. В. Делопроизводство и машинопись: учеб. пособие / В. В. Паневчик. Минск : Выш. шк., 1999. 263 с.



2. Снитко, М. А. Теория бухгалтерского учета: учебник / М. А. Снитко. Минск : Тет расистем, 2006. 312 с.
3. Иванов, Л. М. Распределение землевладения на Украине накануне революции 1905—1907 гг. / Л. М. Иванов // Исторические записки. Т. 60. 1957. С. 176—214.

4. Шабуня, К. И. О некоторых чертах развития аграрных отношений в Белоруссии во второй половине XIX — начале XX в. / К. И. Шабуня // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы: материалы Всесоюз. симпозиума в г. Риге, 6—11 сент. 1961 г. / под ред. В. К. Яцунского. 1963. С. 495—505.
5. Станюкович, Владимир. Бюджет Шереметьевых (1798—1910) / Владимир Станю кович; Управ. музеямиусадьбами и музеямимонастырями Главнауки НКИ. М. : Поли графтрест «Северный печатник», 1927. 27 с.
6. Воблый, К. Г. Опыт истории свеклосахарной промышленности СССР: в 2 т. / К. Г. Воблый. М. : Изд. Правл. Сахартреста, 1928. Т. 1. 412 с.
7. Кафенхауз, Б. Б. История хозяйства Демидовых в XVIII—XIX вв. Опыт по иссле дованию истории уральской металлургии / Б. Б. Кафенхауз. М.; Л. : Издво АН СССР, 1949. 524 с.
8. Анфимов, А. М. Крупное помещичье хозяйство Европейской России. (Конец XIX — начало XX века) / А. М. Анфимов. М. : Наука, 1969. 396 с.
9. Минарик, Л. П. Экономическая характеристика крупнейших земельных собствен ников в России конца XIX — начала XX в. (Землевладение, землепользование, система хозяйства) / Л. П. Минарик; Гос. ист. музей. М. : Советская Россия, 1971. 144 с.
10. Будаев, Д. И. Соотношение капиталистической и отработочной систем в земле дельческом хозяйстве помещика Барышникова Дорогобужского уезда Смоленской гу бернии во второй половине XIX — начале XX века / Д. И. Будаев // Ежегодник по аграр ной истории Восточной Европы: материалы Всесоюз. симпозиума в г. Кишиневе, 16—22 окт. 1964 г. / под ред. В. К. Яцунского. Кишинев, 1966. С. 627—639.
11. Гуменюк, Е. Н. Магнацкое поместье в Галиции в период капитализма (1871—1910 гг.). (По материалам архива Потоцких) / Е. Н. Гуменюк // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы: материалы Всесоюз. симпозиума в г. Кишиневе, 16—22 окт. 1964 г. / под ред. В. К. Яцунского. Кишинев, 1966. С. 690—706.
12. Социальноэкономический строй помещичьего хозяйства Европейской России в эпоху капитализма. Источники и методы изучения / И. Д. Ковальченко [и др.]; под общ. ред. И. Д. Ковальченко. М. : Наука, 1982. 264 с.
13. Бовыкин, И. Ф. Правительственная поддержка уральских магнатов во второй по ловине XIX — начале XX в. / И. Ф. Бовыкин // Исторические записки. Т. 82. 1968. С. 120—162.
14. Грузинов, А. С. Эволюция хозяйства князей АбамелекЛазаревых во второй поло вине XIX — начале XX века (по бюджетным материалам) / А. С. Грузинов // Отечествен ная история. 2004. № 3. С. 93—101.
15. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Мінску (далей — НГАБ). Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 774. Книга для записи протоколов и постановлений по Гомельскому им. [имению] 1874—1882 гг.
16. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 770. Бюджет Гомельского им. на 1873—1874 гг.
17. НГАБ. Фонд 3013. Воп.1. Спр.2119. Финансовый отчет по Гомельскому им. за 1905—1907 гг.
18. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1037. Список на выдачу пенсий и жалованья слу жащим и поденным рабочим, приходные и расходные кассовые документы. Декабрь 1881 — май 1907 гг.
19. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1687. Книга распоряжений по Гомельскому име нию кн. [князя] Паскевича с 1 ноября 1897 г. по 4 июля 1918 г.



20. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 251. Отчет Гомельского лесничества за 1860—1863 гг.
21. НГАБ. Ф 3013. Воп. 1. Спр. 1114. Опись наличности вотчинного управления Го мельского имения кн. Паскевича на 1 апреля 1883 г.

22. Опыт описания Могилевской губернии в историческом, физикогеографическом, сельскохозяйственном, медицинском и статистическом отношении: в 3 кн. Могилевна Днепре: Тип. губ. правл., 1882—1884 / сост. под ред. А. С. Дембовецкого. Кн. 2. 1884. 1002 с.
23. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 836. Дело о залоге в Виленском земельном банке 20 фольварков Балашева и 2 фольварков кн. Паскевича. 1876—1886 гг.
24. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1154. Дело о сдаче Добрушской писчебумажной фабрики в 35летнее арендное содержание. 1884—1913 гг.
25. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1017. Книга записи из счетов прихода и расхода денежных сумм Добрушской писчебумажной фабрики за 1881—1882 гг.
26. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 2005. Переписка с торговыми фирмами и обще ствами о поставке оборудования для Добрушской писчебумажной фабрики. 1914—1916 гг.
27. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1161. Отчеты о паровой лесопилке и молотилке. 1884—1889 гг.
28. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1662. Дело об открытии Глушецкого сенопрессо вального завода. 1896—1906 гг.
29. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 2046. Переписка с Могилевской казенной палатой об уплате налога с торговопромышленных предприятий… 1905—1913 гг.
30. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 1961. Сметы расходов по Добрушскому лесопиль ному заводу, на строительство и ремонт построек, поземельные ведомости лесных участ ков. 1903—1910 гг.
31. НГАБ. Фонд Ф. 3013. Воп. 1. Спр. 2415. Отчет по Гомельскому замку, 1913—1914 гг.
32. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 2. Спр. 20. Переписка с Главной конторой о хозяйствен ном состоянии имения, бюджеты имения, бюджеты прихода и расхода денежных сумм. 1904—1915 гг.
33. Российский государственный исторический архив в г. СанктПетербурге (РГИА). Фонд 892. Оп. 1. Д. 1569. Документы по делу о разрешении Николаю Петровичу Балашеву принять титул и герб князя Варшавского графа ПаскевичаЭриванского как владельцу майоратного имения Паскевича. 1903—1904 гг.
34. НГАБ. Фонд 3013. Воп. 1. Спр. 2041.
35. НГАБ. Фонд 986. Воп. 1. Спр. 1. Договор с мещанином д. Кожушки о сплаве леса в Киев. [Другие документы]. 1836—1913 гг.
36. НГАБ. Фонд 986. Воп. 1. Спр. 58. Ведомости исчисления денег работников, кас совая книга им. Наровля Речицкого уезда. 1899—1900 гг.
37. НГАБ. Фонд 986. Воп. 1. Спр. 17. Ведомость расчетов с батраками. Им. Наровля. 1900 г.
38. Список фабрик и заводов России 1910 г. По официальным данным фабричного податного и горного надзора / сост. редакцией «Торговопромышленной газеты» и «Вест ника финансов». СПб. : Тип. И. Г. Брауде, 1910. 1034 с.
39. НГАБ. Фонд 986. Воп. 1. Спр. 56. Договоры с различными лицами — продажа леса и овечьей шерсти из им. Наровля Речицкого уезда. 1896—1903 гг.
40. НГАБ. Фонд 986. Воп. 1. Спр. 37. Окладные листы им. Головчицы, Наровля Ре чицкого уезда, недоимки им. Наровля. 1911—1917 гг.
41. НГАБ. Фонд 986. Воп. 1. Спр. 47. Контракты с купцами на продажу леса из им. На ровля и Головчицы Речицкого уезда. 1877—1898 гг.